








# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 7 (317) | ГОД VIII | 17 ЛЮТАГА 1963 ГОДА | ЦАНА 60 ГР

УЛАДЗІМІР ЮЗВЮК
Сакратар ГП БГКТ

## 1962 ГОД У ДЗЕЙНАСЦІ БГКТ

Мінулы год меў у дзейнасці БГКТ свае як дадатнія, так і адмоўныя бакі. Традыцыйна прынялося ўжо пры падсумаваннях спачатку гаварыць аб дасягненнях, а потым аб недахопах.

У канцы 1962 года наша таварыства налічвала 3903 члены, якія згуртаваныя былі ў 146 гуртках БГКТ. У параўнанні з папярэднім годам лік членаў узрос на 816 асоб і 14 новых гурткоў. У гэтым напрамку найбольшая праца была праведзена праз праўленне аддзела ў Гайнаўцы, дзе ў БГКТ уступіла каля 300 членаў. Іншыя аддзелы выкарысталі свае магчымасці значна слабей. Актыў іх рэдка выязджаў да гурткоў, часта затрачваў з імі сувязь. У выніку гэтага ў мінулым годзе даволі слаба працавалі многія гурткі БГКТ, а іх члены толькі ў 40—50% маюць аплачаныя складкі.

Кожнае праўленне аддзела правяло канферэнцыю старшынь і сакратароў гурткоў БГКТ. У Дуброве восенню арганізаваны новы аддзел Таварыства. Усе праўленні даволі рэгулярна праводзілі пасяджэнні, мелі планы працы і іх забеспячэнне як з фінансавага, так і арганізацыйнага боку. Трэба адзначыць, што такія праўленні, як у Беластоку, Гайнаўцы, часткова ў Саколцы, Сямяцічах ці Варшаве выказаліся сумленнай працай, якая прынесла плённыя вынікі ў форме арганізавання масавых культурна-асветных мерапрыемстваў, частковай абслугі гурткоў, супрацоўніцтва з мясцовымі ўстановамі і г. далей.

Некаторыя аддзелы БГКТ не выканалі планаў працы. Прэзідыум ГП БГКТ правёў 11 пасяджэнняў, на якіх аналізаваліся формы працы Таварыства, яго бюджэт, справаздачнасць, праца аддзелаў, прамыслова-гаспадарчая дзейнасць і іншыя. Прэзідыум правёў адно пасяджэнне ў бельскім аддзеле і адно ў П-ГП «Бэтэска» ў Варшаве.

Адбылося два пленарных пасяджэнні, з якіх першае было прысвечана працы гурткоў, а другое — справе асветы на беларускай мове.

У мінулым годзе праз радыёвузел паўднёва-усходняй часткі Беласточчыны прачытана 180 пяцімінутных радыёгутарак на беларускай мове. Тэматыка іх была даволі разнастайная: аб працы БГКТ, беларускай літаратуры, сельскагаспадарчых справах, гігіене на вёсцы і г. далей. Найлепш працавалі дыктары ў Дуброве, Гайнаўцы, Саколцы, Мілейчыцах.

Польскае радыё далей кожны панядзелак надавала так зв. «Беларускі магазін». Гэтыя цікава апрацаваныя перадачы выкарыстоўвалі многія радыёвузлы ў паветах. Жыхары гэтых паветаў у гутарках таксама выказвалі пажаданні, каб іх радыёвузлы пачалі трансмітаваць беластоцкія радыёперадачы на беларускай мове.

ГП БГКТ пашырае выдавецкую дзейнасць. Чытачам вядомы орган ГП «Ніва» і дадатак для дзяцей «Зорка». Зараз «Ніва» мае звыш 4000 сталых падпісчыкаў на вёсцы, а таксама ў іншых ваяводствах Польшчы і па-за яе межамі. У 1962 годзе

(Працяг на стар. 4)

## ЛЯСНАЯ ПЕСНЯ

Зімою лес маўклівы. У лютаўскія маразы не пачуеш яго адвечнай песні-пошуму. Нават кароны векавых дубоў-волатаў не зварухнуцца. Мароз сцяў жыццё. Ледзяной пячаццю заклеймаваў лясныя незмаўкаючыя губы. Выцягнуліся дрэвы струнка-мі. Астаўбянелі. Маўчаць. Дакранешся да галінкі-пальчыка і трэсне. Як ледзяная сасулька. Абмярцвелая. Нават слязінкі соку не ўроніць. Зімовай раніцай у абмярцвелы лес прыедуць людзі. Па жыццё. Яны нядбайна кінуць пад дубам-волатам свае жалезныя прылады. Скінуўшы рукавіцы, прывычлівым рухам загорнуць самакруткі і, пыхкаючы дымам, абыякава паглядзяць на цельска дуба.

— Гак! Гак! — загрукацяць сякеры па дубавым целе.

— Гак! Га-а-к! — адклікнецца рэха ў дзесятым квартале.

Устрапянецца стары, векавы дуб. Запозна. Ашалелая ад страху вавёрка патрапіць выскачыць з дубовага дупла і далей уцячы ў лес. Ён не.

Цвёрдае цела дуба-волата. Маленькія зубкі стальной пілы цвярдзейшыя.

Шах-шах, шах-шах. Усё глыбей і глыбей уядаецца сталёвая стужка. Да самага сэрца.

Не вытрымаў дуб. Захістаўся. Завіс на момант у паветры і са стогнам бразнуўся вобземлю.

З паваленым лягчэй справіцца. Піла, сякеры, кліны і чалавечыя рукі. Быў дуб — штабелі дроў засталіся. Кавалкі магутнасці. Мёртвыя. Саньмі

(Працяг на стар. 3)

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю



## Вёску цікавіць палітыка

У кабінеце сакратара прапаганды Паветовага камітэта ПАРП у Саколцы тав. Барыса Нікіцюка вісіць цікавы графік. Ён адлюстроўвае, агульна кажучы, ідэалагічную дзейнасць партыі на Сакольшчыне. Тут запісаны ўсе вёскі павета, да якіх даязджаюць лектары з дакладамі на розныя тэмы.

— З гэтага відаць, што вы распачалі ў павеце сапраўдную ідэалагічную афензіву.

— Ідэалагічная дзейнасць на Сакольшчыне запачаткавана ўжо даўно, — кажа сакратар. — Мо' яна толькі не была такой сістэматычнай, арганізаванай і планаванай, як зараз.

— А як ангажуюцца ў гэтай дзейнасці масавыя арганізацыі, якія існуюць на тэрыторыі павета?

— У канцы мінулага года мы стварылі каардынацыйную камісію, якая арганізуе і кіруе гэтай працай. За апошні час у нас павялічыліся кадры лектараў, якія рыхтуюць даклады і выступаюць з імі ў вёсках. Зараз ёсць у нас 308 сталых лектараў. Пераважная большасць іх гэта актывісты масавых арганізацый, юрысты, настаўнікі, лекары, спецыялісты па сельскай гаспадарцы.

— Ці Аддзел БГКТ у Саколцы бярэ ўдзел у лектарскай працы?

— О, так. Я б сказаў, што БГКТ бярэ актыўны ўдзел у гэтай дзейнасці. Паглядзіце толькі на графік. Тут адзначана, што актывісты таварыства толькі ў канцы мінулага года правялі ў павеце звыш 10 дакладаў на розныя тэмы. Я асабіста, будучы ў Сакалдзе і Лазнях, чуў выказванні людзей на тэму праведзеных дакладаў і самых лектараў. Хваляць. Дамагаюцца, каб часцей прыязджалі.

— Ці на тэрыторыі павета ёсць пастаянныя лектарскія пункты?

— Так. У кожнай грамадскай радзе. Нашыя лектары пастаянна даязджаюць у звыш 70% вёсак павета. Напрыклад, у канцы мінулага года яны арганізавалі 73 даклады на розныя тэмы, на якіх пабывала звыш 5000 людзей.

— Якія тэмы карыстаюцца найбольшым зацікаўленнем сярод насельніцтва?

(Працяг на стар. 5)





# ЛЯСНАЯ ПЕСНЯ

(Працяг са стар. 1)

давязуць іх у вёску, фабрыку. Каб падтрымаць жыццё. Ад дубовых пален печ доўга цяпло трымае. Мароз не страшны. Мэбля трывалая.

У лесе, як успамін па волаце застаўся пень. Забыты. Людзі даканалі свайго. Зімою больш сюды не прыедуць. Хіба толькі дзікі вяпрук, шукаючы ежы, падкавырне рылам. Дубовыя карэнні глыбока сягаюць у мацізямельку. Не вырве. Аб дзікавай слабасці ніхто не пачуе. Пень будзе маўчаць. Як пень. Бо каму ж ён патрэбны?



Вясною, калі цёплыя праменні сонейка зноў разбудзяць да жыцця прыроду — лес ажыве. Мо' і сюды прыдуць людзі з маленькімі саджанцамі. З жыццём. На дубовым пні прысядзе ляснік і, выняўшы з сумкі сваю зашмальцаваную кніжку, запіша дату пасадкі. Лес будзе шумець. Будзе спяваць сваю адвечную песню аб смерці дуба-волата. Аб нараджэнні новага лесу. Аб жыцці.

В. БАРШЧЭЎСКІ

Здымкі Г. РАГАЗІНСКАГА і М. ТАРАСЕВІЧА





# НАС ЗВАЛІ ПОЛЬШЧАЙ „Б"

Значыць горшай, другараднай, адсталай. І ўсё гэта была праўда. Такімі мы былі ў параўнанні з Польшчай «А». Але ў калішніх умовах мы не мелі магчымасці быць іншымі. Цяпер падымаемся. Пашыраем крокі, каб ісці ў нагу з Пазнаньскім, са Шлёнскам. Цяжка даганяць, але адлегласць усё бліжэйшая.

А ўсё ж-такі. Ёсць яшчэ Польшча «Б» ці яе няма? Польшча «А» таксама не стаяла на месцы. Таму астаткі Польшчы «Б» яшчэ сядзяць, і мо' найбольш у псіхіцы людзей.

Конкурс папулярнага тыднёвіка «Палітыка» меў тэму: «Яе звалі Польшчай «Б». Трэба было паказаць гэтую даўнюю Польшчу «Б» у сучасным перыядзе. Паказаць, што і як яна робіць, што зрабіла, каб выраўняць рады.

У «Палітыцы» былі надрукаваны два рэпартажы з Беласточчыны — з Фаст і з Гайнаўшчыны. Але вось выйшла кніга «Дымісія для Анёла», у якой знаходзім больш багаты плён конкурсу, таксама і з Беласточчыны. Знаходзім тут акрамя ўспомненых двух рэпартажаў яшчэ чатыры: з Сямяціч, з Чорнай Беластоцкай, з самога Беластока і з Замброва. Усе яны, напэўна, цікавыя, і многія ў шматлікіх месцах робяць патрасаючае ўражанне, іменна падкрэсленнем тых моцных астаткаў Польшчы «Б». Журналіст шукаў (і знаходзіў) новае, але і старое, адсталае, якое яшчэ ў нас так густа рассеяна, не мог абмінуць. Яно нервавала. Да такой катэгорыі хочацца аднесці асабліва два рэпартажы: «Багатыя людскія залежы» — Андрэя Магдоня аб Сямяцічах і «Пачатак новай фатаграфіі» — Войцеха Адамецкага аб нашай сталіцы, Беластоку. Найгорш, што і Магдонь і Адамецкі маюць рацыю. Вобраз Беластока выйшаў у Адамецкага, праўда, надта бледны, скупы. Якніяк гэта ўсё ж-такі вялікі горад, разбудоўваецца, правільней, перабудоўваецца вельмі бурна. Новы Беласток вырастае з заду струхлелых курных хацінак, абдрапаных бязбокіх даваенных мураваначак. І яны даслоўна засланяюць перад вачыма новыя вялікія будоўлі. Але Адамецкі трапна заўважыў іншае, тое, што перашкаджае Беластоку стацца культурна - інтэлектуальным цэнтрам на падабенства іншых сталіц ваяводстваў. Гэта — мяшчанства. Усюды. Яно, як чорная хмара, вісіць над горадам і хоць Беласток налічвае 120 тысяч жыхароў, усё яшчэ застаецца пляткарскім, дробнамяш-

(Працяг на стар. 5)

БЕЛАРУСЫ Ў СТУДЗЕНЬСКІМ ПАЎСТАННІ

# ВІНЦУК ДУНІН — МАРЦІНКЕВІЧ

У сотую гадавіну паўстання 1863 года спрабуем адказаць на пытанне, якое дачыненне да яго меў лепшы прадстаўнік беларускага грамадства Вінцук Дунін-Марцінкевіч.

Заглянем у цікавы дакумент, які знаходзіцца ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Літоўскай ССР. Гэта следчая справа, якая датычыць удзелу В. Дуніна-Марцінкевіча ў паўстанні 1863 года. На вокладцы яе чытаем: «Следчая справа Часовага палявога аўдытарыята Віленскай ваеннай акругі аб калежскім рэгістратару Вікенцію Марцінкевічу. Пачата 8 кастрычніка 1865 г. — скончана 12 сакавіка 1870 г. На дваццаці васьмі аркушах».

Гэты матэрыял шырока скарыстаў у сваёй публікацыі беларускі даследчык Генадзь Кісялёў у майскім нумары «Полымя» ад 1961 года. Мы ж толькі звернем увагу на некаторыя найбольш характэрныя моманты.

Як вынікае са «Справы», паэт быў арыштаваны ў кастрычніку 1864 года ў Свіры, Свянцянскага павета, і пад канвоем прывезены ў мінскі астрог. Падазронасць царскіх улад выклікалі частыя раз'езды Марцінкевіча ў 1860—1862 гг., калі ён бываў на Ковеншчыне, Віленшчыне, Віцебшчыне і заглядаў нават у Вільню і Пецярбург. У пачатку 1864 года гродзенскі губернатар Скварцоў, звяртаючыся ў цыркуляры да ваенных начальнікаў, адзначаў, што паэт пераапрануты ў сялянскую вопратку наведвае вёскі і там цкуе іх жыхароў супроць урада. У гэтым цыркуляры прыпісваецца таксама Дуніну-Марцінкевічу аўтарства антыдзяржаўнага твора «Гутаркі старога дзеда», які заклікаў сялянства да падтрымкі паўстання. Аднак была яшчэ адна важная прычына, якая ва ўяўленні ўлад спалучала паэта з паўстаннем. Гэта менавіта дзейнасць яго сям'і, а асабліва дачкі Камілы.

Шматлікія гістарычныя і мемуарныя крыніцы сведчаць, што Каміла разгортвала на пераломе 50-х і 60-х гг. надзвычай энергічную антыдзяржаўную дзейнасць. Яна гуртавала ў сваім доме ў Мінску рэвалюцыйна настроеную моладзь, прымала ўдзел у вулічных дэманстрацыях, аказвала матэрыяльную дапамогу зняволеным паўстанцам, а намат рабіла захады вакол набывання зброі. Нездарма жандармскі палкоўнік у Мінску Рэйхарт даў наступную характарыстыку Камілы ў 1861 годзе: «Шкодная гэта дзяўчына Марцінкевіч... Ад нараджэння ёй 26 год, характару дзёрзкага і рашучага, а ідэі пераняла ад бацькі...» У гэтым жа самым заяўленні Рэйхарта выказваецца меркаванне, што Марцінкевіч у час сваіх раз'ездаў, асабліва па Віцебскай губерні, пашырае рэвалюцыйныя ідэі.

У «Следчай справе» знаходзім паказанні старасты Станіслава Клімовіча і сямі сялян, якія заявілі, што ў фальварку Марцінкевіча «Люцынка» адбываліся ў 1862 годзе сходы і спяваліся забароненыя гімны, а перад Вялікаднем 1863 года ўдзельнікі

(Працяг на стар. 4)

— Зы пытаеце, калі здарылася ўскладненне і немцы ўстрывожыліся? — перапытаў палкоўнік.

— Так.

— Дзён сорак назад...

— А што, — задаў пытанне Аскер, — ці ж цяжка архівы вывезці і ў нейкім іншым месцы пабудаваць новы тайнік?

— Мы прадбачылі такую магчымасць і сочым за транспартам. Да таго ж архівы, аб якіх ідзе гутарка, — гэта сотні вялікіх скрынь. Перакінуць калону машын з такім ладункам непрыкметна для варожай разведкі, якая знаходзіцца ў гэтым раёне і спецыяльна палюе за гэтымі архівамі, наўрад ці магчыма. Немцы паразумнелі ў параўнанні з тым, як дзейнічалі ў першы перыяд вайны. Цяпер яны далёкія ад таго, каб недацэньваць сілы і магчымасці савецкай разведкі.

Генерал падзякаваў Чыставу. Той развітаўся і выйшаў.

### НОВАЕ ЗАДАННЕ

— Ну, — сказаў Лысаў, калі ён і Аскер засталіся адны, — што вы аб усім гэтым скажаце?

Аскер маўчэў.

— Гаварыце ж, — усміхнуўся Лыкаў.

48

— І ўсё ж я веру перабежчыку Хоману, — ціха сказаў Аскер.

— Цікава, — сказаў Лыкаў.

— Таварыш генерал, ён ні на гран не выгароджвае сябе, насупраць — часта гаворыць рэчы, якія толькі могуць пашкодзіць яму. Гаворыць і разумее, што дзейнічае сабе на шкоду. А да гэтага яго ніхто не прымушае. Могуць сказаць: гэта, прыём, прымяняючы які, паддоследны хоча выклікаць прыхільнасць да сябе следчага, каб той паверыў яго далейшым паказанням. Але такі прыём добры толькі ў адным выпадку, калі злачынца ведае, што следства мае магчымасць праверыць яго паказанні. А Хоман і не падазрае, што ў нашых руках і лейтэнант Шульц, і обер-яфрэйтар Ланге, і шматлікія іншыя з тых, з кім ён служыў.

— Добра, — сказаў Лыкаў, — мы ўмовіліся, што верым Хоману... Ну, а як быць з тым, што дакладваў палкоўнік Чыстаў? Ёсць у нас падставы не верыць яму і яго людзям?

— Няма, таварыш генерал.

— І ў мяне такіх падстаў няма.

Наступіла паўза. Аскер і Лыкаў сядзелі ў задуменні.

— Магчыма, тайнікі ёсць і ў Остбургу і ў Карлслусце, — працягваў генерал. — Здагадка пры да-

49

ных абставінах праўдападобная. Але пакуль я не магу яе прыняць. Стрымліваюць дзве прычыны. Першая: гарады надта блізка размешчаны, каб быў сэнс двойчы рабіць адну і тую ж вялікую работу... я маю на ўвазе пабудову тайніка. І другая прычына: даныя палкоўніка Чыстава аб тайніку на дзіва падобныя на даныя Хомана і арыштаванага ў Баку агента. Напрашваецца думка: ці не ідзе ў гэтых двух выпадках гутарка аб адным і тым самым сховішчы? Ноччу я дакладваў начальству. Мяне спыталі: «Ці не варта пайсці на рызыку і групу, якая працуе ў Карлслусце, накіраваць на Остбург?» Я не лічу гэта магчымым. Мы прыйшлі да вываду заслаць у Остбург разведчыка. Няхай ва ўсім разбярэцца на месцы.

Аскер хацеў устаць. Лыкаў спыніў яго.

— Вам давядзецца ехаць, таварыш Керымаў... Распрацоўкай аперацыі па закідцы вас у Остбург ужо займаюцца. Усё гэта даручана Рыбіну.

— Ясна.

— Заданне складанае, таму ў дапамогу палкоўніку Рыбіну я падключыў і групу палкоўніка Чыстава. Але, магчыма, у вас складзецца свой план пранікнення ў Остбург? Падумайце і далажыце. Скажам, дзён праз тры.

(Працяг за тыдзень)

50

# Трыбуна чытачоў

## Аўтарскі вечар Юрыя Саргоніна

Варшаўская група Беларускага Літаб'яднання 25 студзеня гг. у памяшканні Таварыства арганізавала аўтарскі вечар Юрыя Саргоніна, рускага паэта, пражываючага ў Польшчы.

На вечары прысутнічала старшыня Варшаўскага аддзела Рускага культурнага таварыства і адначасова старшыня літаратурнага гуртка пісьменніца Вера Ратынская.

Юрый Саргонін прачытаў лірычныя вершы з сваіх паэтычных зборнікаў: «Северное», выдадзеным у 1933 годзе ў Эстоніі, «Весна в декабре», выдадзеным у 1937 годзе ў Варшаве, і «Стихи о Польше», выдадзеным у Варшаве ў 1959 годзе.

Паэт прачытаў таксама падрыхтаваную да друку дзіцячую паэму «Дружба малышей» і пераклады на рускую мову вершаў Ю. Тувіма, Ул. Бранеўскага, К. Галчынскага, Л. Стафа, Р. Дабравольскага і Я. Бжэхвы.

Вершы Ю. Саргоніна прысутным на вечары тым больш падабаліся, што былі прачытаны па-мастацку. Рэдка паэт так дасканала выконвае ўласныя творы.

У сувязі з трыццацігоддзем літаратурнай дзейнасці Ю. Саргоніна неўзабаве выйдзе з друку новы зборнік вершаў паэта.

З свайго боку жадаем юбіляру доўгіх год жыцця і новых дасягненняў на літаратурнай ніве.

**В. Ш.**

## На мора

Наш мастацкі гурток налічвае 19 асоб. У рэпертуары гуртка п'есы «Мікітаў лапаць», «Дзесяць гектараў» і «Цяжкі выпадак». Цяпер рыхтуем яшчэ танец «Лявоніху» і песні «Беласточчына», «Ой, дзяўчына, шуміць гай», «Колькі ў небе звёзд» і інш. Калі ўсё пойдзе добра, выедзем у суседнія вёскі. За заробленыя грошы думаем з'ездзіць на мора.

**Зіна Ялінік**
Навіны

## ЛАПЫ НА ПЕРШЫМ МЕСЦЫ

Нядаўна ў Засаднічай школе механізацыі сельскай гаспадаркі ў Міхалове адбыўся валейбольны турнір паміж камандамі ліцэяў з Міхалова і Лап, ЛьЗС з Гарадка і ЗШМСГ з Міхалова. Першае месца заняў лапскі ліцэй, другое — ліцэй з Міхалова, трэцяе — гарадоцкі ЛьЗС, на апошнім апынулася Засаднічая школа механізацыі сельскай гаспадаркі.

**Ірэна Амброжэй**
Кабылянка

## Весткі з Плёсак

Часта, ідучы вёскай Плёскі, можна пачуць у мясцовай бібліятэцы песні. Гэта плёскаўская моладзь рыхтуецца да выступленняў. Многа дапамагла нашым самадзейнікам мясцовая настаўніца Раіса Белах.

Нядаўна прыехала сюды «Лявоніха» і пазнаёміла нас з новай праграмай. Яна нам вельмі спадабалася.

**П. І.**

## Навагодняя ёлка

27.І.1963 года ў Альхоўцы (Гайнаўскі павет) у будынку тутэйшай пачатковай школы адбылася навагодняя ёлка. Амаль усе жыхары Альхоўкі і навакольных вёсак прышлі паглядзець і паслухаць выступленняў ля навагодняй ёлкі. Вучні паказалі сваім бацькам некалькі п'ес і скетчаў. Спяваліся таксама польскія і беларускія песні.

Праграма выступленняў была багатая і разнастайная. Нездарма вучні да іх так доўга рыхтаваліся. Аднак для дзяцей найшчаслівейшыя былі тыя хвіліны, калі дзед Мароз уручаў ім падарункі.

Пасля выступленняў адбылася забава для дзяцей і дарослых.

**Безіменны**

## Курс пячэння і гатавання

Нядаўна ў вёсцы Дубічы-Царкоўныя арганізаваўся курс пячэння і гатавання. Ходзіць на яго 20 жанчын. Урокі адбываюцца вечарамі. Такі курс вельмі патрэбны, бо на вёсцы яшчэ пераважна па-старому прыгатаўляюць ежу і шмат ідзе ў страты.

Варта адзначыць, што на гэтым курсе нашы жанчыны арганізаваліся ў лігу жанчын. Уступіла ў арганізацыю 15 асоб.

**Хведар Кулік**
Дубічы Царкоўныя

## Сустрэча з „Паўлінкай"

19 студзеня мастацкі калектыў з Сасін (Бельскі павет) наведаў вёску Кнарыды. Самадзейнікі з Сасін падрыхтавалі п'есу Янкі Купалы «Паўлінка». Камедыя ўсім вельмі спадабалася. Маладых артыстаў гледачы ўзнагародзілі бурнымі апладысментамі. Трэба падкрэсліць, што калектыў з Сасін яшчэ малады і пачынае толькі культурную працу. У ім пераважна дзяўчаты. Хлопцаў знайшлося толькі на «акрасу». Чаму? — трудна адказаць на гэтае пытанне.

Усё было б добра, каб толькі не хуліганскія выбрыкі кнарыдскіх «джэнтэльменаў», якія амаль увесь час перашкаджалі старэйшым жыхарам вёскі глядзець гэтую вясёлую камедыю. Цяжка было супакоіць гэтых некалькіх «храбрацоў».

У канцы сустрэчы адбылася супольная патанцоўка.

**Мацейка**

## Шымкі мяняюць свой выгляд

Шымкі — вялікая вёска на тракце Беласток—Ялоўка. Налічвае 170 гаспадароў. Шмат што змянілася тут за часы народнай улады. Ёсць цяпер у Шымках сямікласная школа і С.П.Р., вясковы пункт аховы здароўя і святліца. Штомесяц прыязджае сюды кіно. Калі да гэтага пераліку дадамо вадзяную суполку, тры крамы і пажарную каманду, тады, можна сказаць, што Шымкі — новая вёска.

**Мікалай Лаўрашук**

## СЯБРЫ

(Працяг са стар. 5)

зачапіўся і ўпаў на камені. Святло затрымалася перад ім, ён пачуў знаёмы голас жанчыны, якая вярталася дамоў ад суседкі. Ён быў не на чыгунцы, а на дарозе, тры кіламетры ад дому. Яна памагла яму ўстаць і абтрэсціся ад бруду, прывяла дамоў да сябе і палажыла спаць. Калі прачнуўся, не меў дзе вачэй падзець.

А дома жонка зрабіла такое пекла, што адхацелася вучыцца, ды яшчэ дапоўніла кара 300 зл., якая за тыдзень прышла. А ён? Астаўся дома са сваімі сумнымі думкамі, і пачаў піць да таго, што няма ніякай надзеі выцягнуць яго з гэтага. І я, знаўшы гэтага чалавека, не раз думаю, адкуль бяруцца п'яніцы, думаю, што ёсць сябры, якіх трэба баяцца, як агня.

**К. КАЛІНА**

## Вы адкажаце

(Працяг са стар. 2)

мы патрабуем выдачы іх у рукі савецкага правасуддзя. Яны павінны адказаць перад тварам нашага народа.

Заўвагі: Станіслаў Станкевіч — былы бургамістр Барысава. Да апошняга часу пражываў у Мюнхене. З'яўляецца членам так званай «Рады Беларускай народнай рэспублікі», уваходзіць у састаў вучонага савета «Інстыта па вывучэнню СССР». Уладзімір Сянько — былы начальнік Нясвіжскай раённай паліцыі. Жыве ў горадзе Аснабруку і служыць афіцэрам бундэсвера. Злачынная дзейнасць іх у часе акупацыі праходзіла пад кіраўніцтвам Хойзера.

## У нашай бібліятэцы

Грамадская бібліятэка ў Пасынках змяшчаецца ў прыватнай хаце і ўзначальвае яе Марыя Нікіцюк. Бібліятэкар любіць сваю прафесію і мае добрыя вынікі ў працы. Бібліятэка налічвае 4000 кніжак. Сярод іх шмат беларускіх і рускіх. Імі карыстаюцца 10 бібліятэчных пунктаў, якія раскінуты па ўсёй грамадзе. Найбольш кніжак прачыталі ў пункце вёскі Мякішы, дзе бібліятэкарам з'яўляецца Уладзімір Іванюк. Таксама шмат чытаюць у пункце вёскі Зубава. На агульную колькасць жыхароў грамады, якая налічвае 600 асоб, у 1962 годзе было 160 чытачоў бібліятэкі.

**Уладзімір Весялоўскі**
Пасынкі

## У Пяньках

У гэтым годзе нашым бацькам лепей было малаціць. Яны купілі малатарню і матор. Механік Мар'ян Паскоўскі дапасаваў малатарню да малачэння віхліны.

На апошнім сходзе наш сельгасгуртак пастанавіў купіць два трактарныя агрэгаты і букоўнік да чышчэння насенных траў.

**Уладзімір Азябла**
Пянькі

## МОЛАДЗЬ КАВЕЛЫ

12 кіламетраў на поўнач ад Гайнаўкі знаходзіцца невялікая вёска Кавела. Хат 50.

Тут жыве культурная моладзь, якою кіруе гурток ССМ. Пад кіраўніцтвам арганізацыі добра працуе самадзейнасць. У мінулым годзе ставілі «Прымакоў», цяпер плануецца новая п'еса, а таксама стварэнне інструментальнай і танцавальнай груп. Душой культурнага руху з'яўляецца Марыя Голяк.

Часта моладзь вечарамі збіраецца проста ў якой-небудзь хаце, каб паспяваць або пагутарыць на розныя тэмы. Часта арганізуюцца тут забавы. На іх заўсёды прыязджае моладзь з навакольных вёсак: Навін, Катлоўкі, Ласінкі, Рэпіск і інш. Моладзь Кавелы ветліва да іх адносіцца. Не здараюцца тут бойкі ці сваркі. Хлопцы, як гэта здараецца ў іншых вёсках, не хуліганяць і не ўпіваюцца. Не хапае тут святліцы, якая б узняла на яшчэ вышэйшы ўзровень культурнае жыццё вёскі.

**Надзя Аксенцюк**
Ласінка




**Дарагое СЭРЦАЙКА!**

Мы з Марысяй ходзім ужо больш года. У нашай вёсцы нядаўна была забава і было многа хлопцаў з Бельска. І вось Марыся вельмі дрэнна захавалася. Яна танцавала цэлы вечар то са мною, то з хлопцамі з Бельска. А калі мы ходзім з ёю і думаем пажаніцца, дык гэтага не павінна быць. Ідучы дамоў, мы з Марысяй пасправаліся і цяпер ужо 2 тыдні не гаворым, я чакаю, каб Марыся выясніла мне, чаму так зрабіла, а яна чакае, каб я першы папрасіў прабачэння (так гаварыла майму сябру). Рассудзі, Сэрцайка, хто з нас мае рацыю?

**Колька**
з вёскі М
у Бельскім павеце.

Дарагі Коля!

Безумоўна, рацыю мае Марыся. Нічога ж ёй не сталася, што яна танцавала і з табою і з хлопцамі з Бельска, якія запрашалі яе да танца. Кожная культурная дзяўчына танцуе на забаве з тымі, хто запрашае (за выключэннем, калі хлапец п'яны, дрэнна захоўваецца і т. п.). І хлапцу не будзе прыемна, калі дзяўчына яму адмовіць танцаваць, а пойдзе з другім. І таму ты, Коля, павінен першы памірыцца з Марысяй, бо нетактоўна паступіў з ёй, не маючы рацыі, і на будучыню не рабі сцэн з такіх рэчаў. Гэта, Коля, яўная рэўнасць, і гэта ўжо ў нарачэнстве (?) нядобрая рэч. Хуткай згоды жадае вам

**СЭРЦАЙКА**

## КІНО

**ПРАГРАМА на 18 — 24.II.1963 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Jazz, jazz, jazz" (angl.), 19—21. „Alibi nie wystarcza" (czeski), 22—24.

**Кляшчэлі**
„Król strzelców" (polski), 19—21. „Artysta do wszystkiego" (radz.), 22—24.

**Навасады**
„Marynarz z Komety" (radz.), 23—24.

**Нараў**
„Noc szpiegów" (franc.), 20—24.

**Нараўка**
„Przeciwnicy" (angl.), 20—24.

**Чаромуха**
„Jazz, jazz, jazz" (angl.), 19—21. „Uskrzydleni" (NRD), 22—24.

**Чыжы**
„Bestia" (węgierski), 20—24.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Jawdokia" (radz.), 20—24.

**Бранск**
„Kto sieje wiatr" (USA), 19—21. „Mężczyźni na wyspie" (polski), 22—24.

**Орля**
„Tragiczny zamach" (jugosł.), 20—24.

**Райск**
„Tomcio Paluch" (meksykański), 20—24.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Tajemnica zielonego boru" (radz.), 19—21. „Dwaj panowie N" (polski), 22—24.

**Міхалова**
„W. I. Lenin" (radz.), 19—21. „Ożeniłem się z czarownicą" (USA), 22—24.

**Супрасль**
„Pan i astrolog" (czeski), 19—21. „Dziewczyna z dobrego domu" (polski), 22—24.

**Чорна Беластоцкая**
„Majowe gwiazdy" (czeski), 19—21. „Ciao, ciao, Bambino" (włoski), 22—24.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**
„Morderca mieszka pod 21" (franc.), 19—21. „Alibi nie wystarcza" (czeski), 22—24.

**Мілейчыцы**
„Paragraf i miłość" (hinduski), 19—21. „Ostatni świadek" (NRF), 22—24.

**Нурэц**
„Tajemnica zielonego boru" (radz.), 19—21. „Dwaj panowie N" (polski), 22—24.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Śladami Ikara" (radz.), 19—21. „Dom bez okien" (polski), 22—24.

**Сухаволя**
„Dziewięć dni jednego roku" (radz.), 19—21. „Rzeczywistość" (polski), 22—24.

**Шудзялава**
„Tata, mama, córka i zięć" (radz.), 20—24.

**Янаў**
„Ruda Julka" (franc.), 19—21. „Aby kwitło życie" (polski), 22—24.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**
„Noc szpiegów" (franc.), 23—24.

**Новы Двор**
„Telegraficzny pojedynek" (rumuński), 23—24.

**Ружаны Сток.**
„Kobieta w szlafroku" (angl.), 19—20. „Ludzie i wilki" (włoski), 21—23. „Czarci żleb" (polski), 23—24.


**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1.
Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.
Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2.40 zł kwartalnie — 7.20 łz. półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.
Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-6-100024
Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $. w Europie 5 $ — w USA.
Nakład 5000. BłtK A-2

